Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 200.000 м.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.500000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 300.000 мк., сярод тэксту 250.000 м. і на 4 стр. 200.000 м., за радок пэтыту у 1 кал.

№ 9 (30). Вільня, Нядзеля, 27-га студзеня 1924 г. Год II.

## „Вялікі Экспэрымэнтатар“.

Памёр Ленін....

Памёр „вялікі экспэрымэнтатар“, памёр чалавек, які адважыўся павясьці народныя масы бязьмежнае Расеі найпрасьцейшай і найкарацейшай дарогай да *сацыяльнае рэвалюцыі.*

Так многа ўсюдых гаворыцца аб сацыяльнай рэвалюцыі! Сацыялісты гавораць аб ёй, як аб далёкім, але няўхільным дню „вялікае расплаты“, калі работнікі ўсяго сьвету возьмуць у свае рукі вытвар іх-жа уласнае працы—усю прамысловасьць, абапертую сяньня на капіталістычным ладзе і дзеля гэтага засуджаную на катастрофу. Буржуазія гаворыць аб сацыяльнай рэвалюцыі з нянавісьцяй і страхам, але й яна ня можа запярэчыць няўхільнасьці замены капіталізму грамадзкай гаспадаркай, толькі не прадстаўляе сабе магчымым выбух яе ў хуткім часе. Бо і адны і другія прывыклі ўсе перамены ў грамадзкім жыцьці разглядаць *эвалюцыйна* і пераканаць, што народы сьвету чакае яшчэ вельмі доўгі пэрыяд *насьпяваньня* сацыяльнае рэвалюцыі, якая павінна выбухнуць тады, калі *расьцьвіўшы* і *перацьвіўшы* капіталізм згубіць апраўданьне свайго існаваньня, як неадпавядаючы ўжо вымогам вытворчасьці.

Але мы ня ведаем ні ў якой галіне грамадзкага жыцьця такое „ідэальнае эвалюцыі“. Дасьпеўшыя плады, праўда, спадаюць з дрэва і бяз ветру; але наляцеўшая навальніца страсае часта і недасьпеўшыя і зусім сырыя....

Такая навальніца праляцела на нашых вачох над усенькім сьветам, устросшы яго да самых фундамэнтаў. У сувязі з сусьветнай вайной пачало валіцца тое, што пры нармальных варунках яшчэ доўгія гады павінна-б было „дасьпяваць“.

У першы чарод пачалі валіцца *манархіі*: манархічная ўлада, абапертая на волі адзінкі—„памазаньніка божага“, ужо даўно перажыла тыя часы, калі дзеля тых ці іншых прычын існаваньне яе аб'ектыўна было апраўдана. Як дасьпеўшы і нават перасьпеўшы плод, яна і павінна была першая стацца ахвярай сусьветнае завірухі. І там, дзе ўлада манарха, як у Расеі, на пагляд, была найпаўнейшая, дзе яна найбольш рэзка разыходзілася з вымогамі новага жыцьця, што зарадзілася і бурліла ўжо ў гушчы народнай,—там развал манархіі адбыўся ў найбольш рэзкай, найбольш катастрафічнай форме.

А аднача сна з развалам царызму ў Расеі, Нямеччыне, Аўстрыі—пачынаецца развал і самых гэтых *дзяржаваў*. Наперадзі ўсіх і тут ідзе Расея, стаўшаяся *вастрогам народаў*, паняволеных сілай аружжа. І адзін за адным вызваленыя народы выходзяць з гэнага вастрогу—дзеля самастойнага, ні ад кога незалежнага дзяржаўнага жыцьця.

Мімаволі думка наша зварачаецца назад—да таго вялікага ў гісторыі ўсіх народаў мамэнту, дзесятыя ўгодкі якога выпадаюць сёлета: да мамэнту выбуху *сусьветнае вайны*. Напярэдадні гэтага мамэнту ўлада расейскага цара здавалася такой магутнай, моц Расейскае дзяржавы—такой нязломнай, што нават найбольш гарачыя рэвалюцыянеры і незалежнікі спасярод „інародцаў“ прадстаўлялі сабе мамэнт рэвалюцыі і вызваленьня паняволеных народаў яшчэ дужа-дужа далёкім. Дый пры *нармальным* ходзе выпадкаў такі пагляд быў бязумоўна абасьнаваны.—Але ваенная навальніца перавярнула ўсё ўверх дном, і тое, на што нармальна трэба-б было чакаць доўгія дзесяткі гадоў, адбылося за тры ваенныя гады...

*Эвалюцыянізм* у палітычна-дзяржаўным жыцьці як быццам збанкрутаваў. Вайна, ўзварушыўшы да дна ўсё жыцьцё народаў, *далёкае і немагчымае зрабіла блізкім і магчымым.*

Але вайна закранула ня толькі палітычна-дзяржаўнае жыцьцё: яна асабліва жорстка ўстрасянула эканамічнымі асновамі жыцьця ваюючых і нават нэўтральных гаспадарстваў, яна высунула на першы плян пытаньні *сацыяльнага характару*. А лёгкасьць, з якою адбыўся цэлы рад палітычных рэвалюцыяў, збудзіла сярод рэвалюцыянераў думку: ці ў гэтай агульнай пераацэнцы цэннасьцяў не пара заняцца пераацэнкай і пагляду на рэвалюцыю *сацыяльную*? Мо' гэтая другая рэвалюцыя акажацца таксама блізкай і магчымай, якой аказалася рэвалюцыя палітычная?

І вось знайшліся людзі, якія пастанавілі зрабіць спробу: *зьдзейсьніць цяпер*, у нашы дні, усё тое, што клясычны марксізм адкладаў на далёкую будучыну, разглядаючы *сацыяльную рэвалюцыю*, як вынік закончанае *гаспадарчае эвалюцыі*. Замест адбудовываць з вытворанага вайной хаосу капіталістычную Расею, якая-б ізноў узлажыла капіталістычнае ярмо на шыі працоўных масаў, гэтыя людзі, здабыўшы дзяржаўную ўладу, надумаліся на руінах капіталістычнае манархіі распачаць будаваньне нечага зусім новага, нябывалага, непрактыкаванага: *будаваньне сацыялістычнае рэспублікі*, у якой зьдзейсьнілася-бы максымальная праграма сацыялістаў усяго сьвету. А правадыром гэтых сьмелых экспэрымэнтатараў, іх ідэйным кіраўніком быў *Валадзімір Ульянаў-Ленін.*

І пачалася рэалізацыя ідэі сацыялізму — *воляй інтэлекту рэвалюцыйных народных масаў*, не аглядаючыся, ці настаў „абвешчаны праз пракакаў“ марксізму час на гэта.

У бязспынный, цяжкай, напружанай барацьбе клаў Ленін фундамэнты пад сваю будоўлю. У працягу шасьцёх гадоў гэты бязспрэчна геніяльны чалавек ня раз памыляўся. Але кожын раз, як бачыў свае абмылкі, меў адвагу сільных людзей прызнацца да іх і шукаць новых дарог. І мы бачым пачатак знамянітага „НЭП-у“ (новае эканамічнае палітыкі), бачым рашучы паварот у нацыянальнай палітыцы і прызнаньне справы тварэньня нацыянальных культур і нацыянальных рэспублік асновай усяго дзяржаўнага будаўніцтва Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік.

Куды завядуць сьмелых экспэрымэнтатараў гэтыя новыя дарогі? Да „Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік Эўропы“, ці нават усяго сьвету, як аб гэтым лятуцеў Ленін? Ці да поўнага развалу спробы рэалізацыі сацыялістычных ідэалаў, да „старога карыта“—да ўзнаўленьня капіталізму і царызму ў адбудаванай у даваенных межах „единой, неделимой“ Расеі, аб чым не перастае сьніць на яве ўся многатысячная расейская заграчнічная эміграцыя? Вось пытаньне, за разьвязку якога на нашых вачох адбываецца барацьба ня толькі ў межах Расеі, але і на ўсенькім сьвеце, дзе ўжо зварухнуліся работніцкія масы, збуджаныя чырвоным заравам з Усходу.

Але, як-бы жыцьцё яго ні разьвязала, сьлед вялікага, расейскага экспэрымэнту, нават у прыпадку поўнае няўдачы яго, ніколі не загінуў-бы ў гісторыі змаганьня Працы людзкое за вызваленьне с-пад улады Капіталу. І ўжо гэта адно *ўвекавечывае* імя Леніна, як у памяці яго ідэйных супрацоўнікаў, так і ў памяці тых, каго ён меў адвагу павясьці па шляху крывавае барацьбы да акончальнага і поўнага вызваленьня.

---

Валадзімір Ульянаў (Ленін) радзіўся ў 1870 г. у Сымбірску, дзе бацька яго Ільля быў дырэктарам гімназіі. У 1887 г. старшы брат Леніна Аляксандар, які быў замешаны ў загаворы студэнтаў петраградзкага ўнівэрсытэту проціў цара Аляксандра III, згінуў на шыбеніцы. З таго часу Ленін моцна зьненавідзеў царызм і распачаў з ім бязьлітасную барацьбу.

Скончыўшы гімназію, Ленін паступіў у Казанскі ўнівэрсытэт, адкуль яго выключылі за ўчасьце ў рэвалюцыйным руху студэнтаў і толькі праз 4 гады яму зноў дазволілі паступіць на петраградзкі ўнівэрсытэт. У Петраградзе Ленін увайшоў у адзін з рэвалюцыйных гурткоў, які займаўся прапагандай марсізму сярод работнікаў. Аднак яго хутка саслалі ў Сібір, адкуль ён у 1900 г. уцёк заграніцу. Заграніцай Ленін распачаў кіпучую дзейнасьць на чале расейскай эміграцыі. Працаваў перш разам з Плехановым, Мартавым і Потрэсавым, выдаючы часопісь „Заря“, а пазьней „Искра“. Гэткім чынам утварылася на эміграцыі расейская сацыял-дэмакратычная партыя.

У 1903 г. на другім зьезьдзе партыі ў Лёндыне зазначылася глыбокая разьбежнасьць у паглядах паміж Леніным з аднаго боку і Плехановым і Мартавым з другога. Большасьць учасьнікаў зьезду была на старане Леніна. На гэтым зьезьдзе і адбыўся падзел расейскіх сацыял-дэмакратаў на бальшавікоў і меншавікоў; розьніца паміж гэтымі кірункамі яшчэ больш выявілася ў пэрыяд рэвалюцыі 1905 г. Ужо тады Ленін выступаў з шырокімі плянамі сацыяльнай рэвалюцыі.

Сусьветная вайна застала Леніна ў Аўстрыі пад Кракавам, адкуль ён у працягу 2 гадоў кіраваў партыйнымі справамі ў Расеі. Арыштаваны аўстрыйскімі ўладамі, быў звольнены дзякуючы інтэрвэнцыі сацыялістаў і выехаў да Швайцарыі, дзе распачаў гарачую агітацыю на карысьць спыненьня „ўзаемнай вайны капіталістычных разбойнікаў шляхам хатняй вайны работнікаў з капіталістычнымі грабежнікамі ўласнага краю“.

У сакавіку 1917 г., пасьля зваленьня царызму, Ленін вяруўся з сваімі бліжэйшымі таварышамі ў Расею і ад гэтага часу распачынаецца яго дзейнасьць, якую ўвекавечыць гісторыя.

Пасьля пралетарскай рэвалюцыі у кастрычніку 1917 г. Ленін становіцца галоўным кіраўніком будовы новага сацыяльнага ладу, выказваючы нязвычайную працаздольнасьць і энэргію. У апошні год, дзякуючы хваробе, Ленін ужо менш прыймаў актыўнага ўчасьця ў жыцьці збудаванага ім Саюзу Сацыялістычных Рэспублік.

Як чалавек, быў высока ідэёвы і чэсны. Жалезная воля і энэргія ў служэньні ідэі, якой усё ахвараваў і ў якую моцна верыў, выклікалі вялікую павагу нават сярод палітычных ворагаў.

Працоўныя масы ўсяго сьвету страцілі ў ім вялікага вучыцеля і змагара за вызваленьне ад паняволеньня працы капіталам.

# Аб „расколе“ у Р. К. П.

Перад апошняй канфэрэнцыяй Расейскай Камуністычнай Партыі (Р. К. П.) на шпальтах афіцыяльных органаў гэтай партыі распачалася гарачая дыскусія на тэму аб дэмакратызацыі. Выявіліся, як гэта заўсёды бывае, розныя пагляды паміж паасобнымі віднымі сябрамі партыі; прыводзілася шмат аргумэнтаў на карысьць таго ці іншага пагляду і спрэчкі часамі прыймалі даволі востры характар.

Буржуазная і сацыял-угадоўская прэса ўсяго сьвету пачала шырока расьпісваць аб вострай барацьбе ўнутры Р. К. П.; падаваліся весткі, чуць не аб аружным змаганьні паміж Троцкім і Зіноўевым, аб расколе партыі і шмат іншых, нічога супольнага нямаючых з запраўдным палажэньнем. Судзячы па тону гэтай прэсы можна было думаць, што Р. К. П. запраўды перажывае востры ўнутраны крызіс, што хутка наступіць развал бальшавіцкага лягеру, вынікам чаго зьявіцца ўпадак радавае ўлады ў С. С. Р. Р.

Сьмерць усімі прызнага правадыра партыі Леніна, які карыстаўся нязвычайным аўторытэтам ня толькі сярод сябраў партыі, але і наагул сярод шырокіх масаў насяленьня, яшчэ больш паднялі надзеі сярод ворагаў радавага ладу; зараз-жа пасьля першых вестак аб сьмерці старшыні народнык камісараў зьявіліся ўва ўсіх польскіх газэтах артыкулы, у якіх даводзілася, што толькі дзякуючы маральнаму аўторытэту Леніна, удалося дасюль утрымаць адзінства Р. К. П. і што з выхадам з палітычнай сцэны гэтай першараднай сілы, распад партыі пойдзе яшчэ больш хуткім тэмпам.

Ува ўсіх гэтых вестках і прароцтвах ёсьць шмат фантазіі і вельмі мала запраўднага разуменьня таго, што адбываецца ў Радавых Рэспубліках. Р. К. П. за апошнія гады паказала сваю надзвычайную арганізацыйную здольнасьць і гібкасьць. Гэта ня ёсьць нейкая закасьцянелая ў сваіх догматах каста; гэта ёсьць жывая партыя, якая сваю дзейнасьць дастасоўвае да тых ці іншых жыцьцёвых вымаганьняў і гэтая яе ўласьцівасьць—магчымасьць пастаяннай эволюцііі — і зьяўляецца прычынай яе ўдачаў і жыцьцёвасьці. Прыкладам гэтага можа зьяўляцца хаця б разьвязаньне партыяй нацыянальнага пытаньня ў С. С. С. Р., якое ў іншых краёх ніяк ня можа крануцца з мейсца.

У пэрыяд т. зв. „ваеннага камунізму“, калі партыя прымушана была вясьці барацьбу, вымагаўшую напружаньня ўсіх сілаў, як з контр-рэвалюцыяй і заграпічнай інтэрвэнцыяй, так і з нячуванай эканамічнай разрухай, патрэбны быў строгі цэнтралізм і дыктатура кіраўнічых органаў. Не магло быць тады гутаркі аб дыскусіі, аб розьніцы паглядаў, аб колектыўным вырашэньні пытаньняў, калі рубам стаяла пытаньне: быць ці ня быць. Кожны ведае, што ў мамэнт бою трэба выпаўняць загады, а не мітынгаваць. Але час вострай небясьпекі для самога істнаваньня радавага ладу ўжо мінуў. Радавая ўлада справілася з найтруднейшымі заданьнямі, настаў час для спакойнае творчае працы, для будовы вялікага гмаху работніцка-сялянскай дзяржавы. Ясна, што пры зьмяніўшыхся варунках сыстэма арганізацыі і тактыка кіруючай партыі павінна таксама зьмяніцца і дапасавацца да новых заданьняў.

Карысны і неабходны ў пэрыяд вострай барацьбы цэнтралізм павінен уступіць месца дэмакратызму ў пэрыяд мірнай творчай працы. Да гэтай працы трэба прыцягнуць як мага больш шырокія слаі працоўных. Дзеля гэтага кожная пастанова цэнтральных органаў павінна быць прадыскутована ўва ўсіх ніжэйшых арганізацыйных органах, да сабраньня радавых сябраў уключна. Гэта дае магчымасьць з аднаго боку больш сьвядома выпаўняць усе пастановы вышэйшых органаў, а з другога—уцягваючы ўсё больш асобаў у актыўнае будаўніцтва, застрахаваць гэтыя вышэйшыя органы ад тых памылак і аднабокасьці ў пастановах, якія заўсёды магчымы ў цесна абмежаваным гуртку.

Гэтая патрэба дэмакратызацыі партыі і прынята аднагалосна на апошняй канфэрэнцыі Р. К. П. Дыскусія вялася галоўным чынам не аб тым, ці наагул патрэбна дэмакратызацыя, а ці ўжо настаў адпаведны мамэнт, каб яе поўнасьцю правесьці ў жыцьцё. І зусім зьяўляецца зразумелай тая палеміка, якая адбывалася перад канфэрэнцыяй і на самой канфэрэнцыі па гэтаму так важнаму пытаньню. Але рабіць з гэтага вывад, што Р. К. П. пагражае раскол і распад, што магчыма вострая нават „аружная“ барацьба паміж прыхільнікамі таго ці іншага рязьвязаньня справы, па нашай думцы, зьяўляецца больш чым неабаснаваным. Вынікі канфэрэнцыі сьведчаць якраз аб іншым, а сьмерць вялікага правадыра яшчэ больш аб'яднае партыю і скіруе ўсе яе высілкі да правядзеньня ў жыцьцё тэй праграмы, якую ён распачаў, але ня мог давясьці да канца.

**Кумельган.**

# Гадавы балянс фашызму.

Італьянскі карэспандэнт „Trybuny Robotniczej“ падае цікавы балянс фашыстаўскае дыктатуры ў Італіі.

Згодна з афіцыяльнай гадавою справаздачай цэнтральных органаў партыі, фашысты ў Італіі налічваюць 7112 групаў з 777.703 сябрамі і 400 групаў з 60.000 сябраў заграніцай. Калі прыняць пад увагу тыя выключна спрыяючыя варункі ў жыцьці партыі, у руках якое знаходзіцца ўся ўлада ў краі, дык як лік групаў, таксама і сябраў фашыстаўскай партыі, хутчэй трэба прызнаць нізкім, чым высокім, асабліва, калі прыняць пад увагу, што ўваход у партыю не накладае на сябра ніякіх абавязкаў, а наадварот, дае шмат асабістых карысьцяў як матарыяльных, так і сацыяльных.

Ня лепш прадстаўляецца і балянс фашыстаўскага ўраду. Урадовая праграма фашыстаў складаецца з двух аснаўных пунктаў: уваскрашэньне аўторытэту дзяржавы і аздараўленьне гаспадарчай сітуацыі.

Мусоліні, як старшыня міністраў, у аднэй з сваіх прамоваў у парлямэнце каротка азначыў істасьць дзяржавы: „*Дзяржава — гэта жандар*“. І Мусоліні запраўды імкнуўся падняць аўтарытэт сваей дзяржавы-жандара. Але гэтыя імкненьні разьбіліся аб супраціўленьне сярод самых фашыстаў. Злым жартам было-б казаць аб аўтарытэце дзяржавы і яе правох. У запраўднасьці істнуе *толькі адзін аўтарытэт правінцыяльных кацыкаў і мясцовых правадыроў фашыстаў і адно права—іхняя самаволя.* Няпоўная статыстыка паказвае, што ў 1923 г. фашысты папоўнілі *сто забойстваў работнікаў*, а ў гэтых справах з боку ўлады нават сьледзтва не праведзена. Апрача гэтага ў леташнім годзе зьнішчана і спалена сотні работніцкіх дамоў і крывава пабіта і пакалечана тысячы работнікаў, чаго ані паліцыя, ані пракуратура нават не заўважыла.

„Аздараўленьне“ гаспадаркі дае вынікі, якія самі за сябе гавораць. Направа дзяржаўных фінансаў зьяўлялася адным з найважнейшых пунктаў праграмы. Каб зьдзейсьніць гэтае аздараўленьне, Мусоліні атрымаў неабмяжкованыя паўнамоцтвы на адзін год (тэрмін гэтых паўнамоцтваў мінуў 31 сьнежня 1923 г.). Міністар фінансаў заявіў, што ўраду удалося зьменшыць гадавы дэфіцыт з 5 на 3 мільярды ліраў на сёлетні год. Аднак, калі бліжэй прыгледзецца да гэтага праекту буджэту, дык выявіцца, што гэтая вялікая ўдача фашыстаўскага ўраду зьяўляецца толькі нэндзным тэхнічным манэўрам: вялізарная большасьць дзяржаўных выдаткаў ня ўнесена ў буджэт, а пакрыта новымі пазычкамі! Запраўдны дэфіцыт ня толькі ня будзе меншым, чым у леташнім годзе, але нават перавысіць яго.

Таксама справа стаіць і ў гандлёвым балянсе, дэфіцыт якога якраз у апошнія 9 месяцаў быў на 536 мільёнаў ліраў большы, чым у папярэднім годзе.

Курс валютаў таксама сьведчыць аб гэтым. У сваей першай прамове Мусоліні заявіў, што ў працягу двух месяцаў падніме вартасьць італьянскай валюты з 1/4 да 1/2 яе перадваеннае вышыні. Аднак, калі сярэдні гадавы курс даляра перад фашыстаўскім пераваротам быў 20,8 ліраў, цяпер выносіць 23,4; інакш кажучы, за час фашыстаўскай улады вартасьць ліры ўпала з 1/4 да 1/5 яе перадваеннай вартасьці.

Яшчэ больш сумнымі зьяўляюцца вынікі фашыстаўскай дзяржаўнай гаспадаркі, калі прыняць пад увагу некаторыя дэталі. Урад фашыстаўскі запраўды зрабіў вялікія „ашчаднасьці“: выкінуў са службы 40.000 чыгуншчыкаў і 15.000 урадоўцаў пошты і тэлеграфу. Лік школаў зьменшаны да таго, што дзесяткі тысячаў дзяцей у школьным веку ня могуць карыстацца з асьветы; дзяржаўныя дапамогі на сацыяльнае забясьпячэньне, на безработных і г. д. скасаваны.

Але нават гэтыя ашчаднасьці не пакрываюць выдаткаў на армію. Час службы ў войску павялічаны да 18, а ў флёце да 28 месяцаў; далей павялічаны лік паліцыі і т. зв. фашыстаўскай міліцыі, якая налічвае каля паўмільёна асобаў. А колькі-ж каштуе будова новых караблёў, а асабліва аэропляпаў.

Апрача павялічаных вайсковых выдаткаў істнуе яшчэ цэлы рад іншых, якія абцяжаюць дзяржаўны буджэт, а перадусім вялізарныя дапамогі паасобным капіталістычным групам. „Аздараўленьне“ прадпрыемства „Ansaldo“ каштавала дзяржаве паўмільярда ліраў; прамыслоўцы з новых правінцыяў атрымалі дапамогу ў суме 138 мільёнаў; учасьнікі карабельных варштатаў 200 мільёнаў; „уратаваньне“ „Banco di Roma“ каштавала ня менш, як два мільярды і г. д. Да гэтага трэба дадаць скасаваньне беспасрэдных падаткаў, якія галоўным чынам плацілі заможныя клясы; праз скасаваньне аднаго толькі падатку ад спадкаў дзяржава траціць кожны год 250 мільёнаў.

Гаспадарчы балянс работніцкай клясы дужа просты.

Паказальнік дарагоўлі падняўся з 708 ў 1922 г. на 726 у 1923 г. Аднačасна з узростам дарагоўлі зьмяншаюцца даходы працоўных масаў, а асабліва пралетарыяту. Заработная плата ў параўнаньні з 1922 г. панізілася: ў земляробстве на 10—25 %, у прамысловасьці—на 20—25 %. Пры гэтым трэба дадаць, што даходы сем'яў, асабліва сярод прамысловага пралетарыяту, шмат зьменшыліся, бо тыя, хто працаваў у папярэднім годзе, цяпер з прычыны агульна-гаспадарчага заняпаду, знаходзяцца бяз працы.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Прэм'ер Грабскі мае выдаць адозву да грамадзянства, у якой закліча яго да помачы ўраду ў справе аздараўленьня фінансаў, абвяшчаючы, што хутка ўжо ўрад створыць для Краю новы здаровы грош. Пажывём—пабачым.

---

Ня вельмі моцна, відаць, веручы ў „ахвярнасьць“ польскага грамадзянства, п. Грабскі хацеў „карыстац-

# У „санаторыі доктара Грабскага“.

Зусім зразумела, што, папаўшы ў „санаторыю“, каб нарэшце вылячыцца ці падлячыцца ад пагражаючай ужо напраўду яе жыцьцю фінансавай „вадзянкі“, Польшча, таксама як кожны іншы хворы, у вельмі значнай меры змушана ня толькі абмежавацца ў вольным і актыўным учасьці ў вонкавым міжнародным жыцьці, але таксама абмежаваць нармальную паўнату і волю сваіх унутраных рухаў і актаў...

Ува ўсіх галінах нармальнай дзеяльнасьці незалежнай, дэмакратычнай, канстытуцыйнай дзяржавы павінен быў адбіцца гэты „санацыйны рэжым“...

Перадусім палітычная самадзельнасьць і самастойнасьць грамадзянства, знайшоўшыя ўжо было сваё выражэньне ў неабмежаваным „сувэрэнітэце“ парлямэнту дэмакратычнай Рэспублікі, амаль ня зусім спыніліся: як Сойм, таксама і Сэнат хворай Польшчы, амаль не аднагалосна, прынамсі ў „чыста польскай“ сваей частцы, прызналі самі сябе „недарослымі, недасьпелымі“, і на даўжэйшы час аддалі амаль ня ўсе самыя найгалаўнейшыя, бо законадаўча-фінансавыя правы,—юрыдычна п. Прэзыдэнту Рэспублікі, а фактычна старшыні ўраду – „доктару“ Грабскаму,..

Ад 15 студзеня ў Польшчы ўжо ня творыцца законаў, але выдаюцца, як быццам царскія „ўказы“, або дэкрэты — „rozporządzenia p. Prezydenta“, які гэткім чынам, апрача ўлады выканаўчай, атрымаў у значнай меры і ўладу уставадаўчую, што, як мы ведаем, характарызуе лад ня толькі манархічны, але і дэспатычны...—Ідэал „манархізацыі прэзыдэнтуры“, аб якім праз увесь час лятуцела і ў нас у Вільні абшарніцкае „Słowo“, у значнай меры ўжо ажыцёвіўся ў сучаснай, хворай Польшчы...

Абмежаваньне лячэньнем фінансавай хваробы амаль ня зусім скасавала і ўсю актыўнасьць у заграпічнай палітыцы Польшчы...—„Kurjer Polski“ з вялікім сумам указвае на ўжо больш, як месяц трываючую фактычную адсутнасьць нават адказнага кіраўніка заграпічных спраў Польшчы... Але таксама трафна і зьдзіўлена падкрэсьлівае газэта і адсутнасьць такога-ж адказнага і трывалага кіраўніка і ўнутраных спраў ў Польшчы, бо п. Солтан ня столькі лічыць сябе міністрам, скольк і хоча захаваць сабе варшаўскае ваяводзтва, дзеля чаго, зразумела, устрымліваецца ад усякай трывалай, актыўнай праграмнай палітыкі...

І—як заграпічнае, вонкавае жыцьцё, таксама і ўнутраныя падзеі неяк ідуць самі сабою—сіламі ворагаў, ці прыяцеляў—вонках, розумам і талентамі мясцовых кацыкаў—унутры,—каб не фатыгаваць залішнімі думкамі, высілкамі, трывогамі хворага ў санаторыі...

---

Але-ж, на жаль, навакола Польшчы жыцьцё кіпіць і імкнецца, як ніколі йшчэ пасьля вайны!.. І ўнутры Польшчы, апрача фінансавай хваробы, закаранілася шмат іншых.

Пытаньні, справы, праблемы, супярэчнасьці — растуць, як грыбы... Але галоўная рэч — у тым, што, не спатыкаючы вырашэньня, яны вырастаюць да страшэнных разьмераў гэткай самай хранічнай, мо' і невылячымай, хваробы, як і тая—фінансавая, што цяпер захапіла сабой усю ўвагу ўраду, зачыніўшы яму вочы на ўсе іншыя... Руйнуецца ня толькі фінансавае, але і наагул дзяржаўнае здароўе і жыцьцё Краю.

І вось—на ўсе гэтыя пытаньні, праблемы, хваробы, супярэчнасьці — на ўсе гэтыя тэмы, як кажа Нос у „Weselu“ „Выспянскага“, „найлепш сьпіць“ хворая Польшча ў „санаторыі доктара Грабскага“... на ўсё гэтае свае скамплікаванае палажэньне Польшча, як кажа п. Zm. з „Kur. Polsk.“ адказывае, нават на „вяршынях сваей гаспадарственасьці“—„biernością, obojętnością, ignoracją“...

Цяжка адказаць, якое здароўе ўласьціва ратуецца гэткім чынам у фінансавай санаторыі д-ра Грабскага...

---

Але дапраўды—зірнеце, якое жыцьцё кіпіць, як у катле, навакол Польшчы...

У міжнародным жыцьці дасьпяваюць і ўкладаюцца новыя камбінацыі, адносіны, саюзы; творацца новыя палітычныя факты вялізарнай важнасьці, якія надоўга вырашаць лёс і напрамак усяго складу і руху сусьветнага жыцьця...

І „моцарствовая Польшча“ літэральна ўсюдых, як кажуць палякі, „świeci swoją nieobecnością“...

У Англіі запраўды, як казаў Асквіт, пачынаецца „новая эра“,—выходзіць на сусьветна-палітычную арэну Работніцкая партыя, наагул няпрыязна настроеная да сучаснай Польшчы; выходзіць бок аб бок з заведамым „ворагам Польшчы“ Л.-Джорджам... Францыя рыхтуецца да апошняга акту ціхай, але потым ня менш сьмяротнай барацьбы з Англіяй... А—перадусім—зьмяняе кірунак сваей „процірадавай“ палітыкі, шукаючы новых, больш трывалых і рэальных падпорак...—Саюз з Чэхаславакіяй, які аказаўся зусім нечаканым „сюрпрызам“ для саюзьніцы — Польшчы і, як цяпер зусім выразна сьцьвердзіла нашу думку амаль ня ўся левая польская і большасьць заграпічнай прэсы, у значнай меры адсоўвае Польшчу з вялікіх шляхоў міжнароднага жыцьця на ролю „палітычнай правінцыі“...

У Малай Антанты, з прычыны перагляду адносінаў да Францыі і галоўна—да Радавых Рэспублікаў, зарысаваліся пэўныя разьбежнасьці, якія Польшча магла-б вельмі добра выкарыстаць у сваім інтарэсе... У Балтыцкай Антанты стаіць рубам пытаньне—„ці з Польшчай ці С. С. Р. Р.?.“

Адбываюцца ўклады і ўмовы паміж дасюлешнімі ворагамі—Італіяй і Югаславіяй, Румыніяй і С.С.Р.Р... Варочаецца да Эўропы перамогшая пераможцаў Турэччына. Вырашаюцца лёсы прыяцелькі Польшчы Вэнгрыі... Ня выключана магчымасьць, можа нятрывалага, але рэальнага паразуменьня Францыі з Нямеччынай, ня кажучы ўжо аб тым, як рвецца Францыя, ня маючы мосту, папросту шукаючы броду, да Радавых Рэспублік...—Ува ўсіх гэтых вялізарнай вагі падзеях, некаторыя з якіх маюць для Польшчы першарадную, папросту жыцьцёвую важнасьць, Польшчы ў Эўропе літэральна зусім няма, бо яна прымушана прайсьці доўгі курс лячэньня ў „санаторыі д-ра Грабскага“...

І тады, калі яе шчасьлівы канкурэнт, амаль ня вораг Польшчы, д-р Бэнэш, патрапіў апынуцца ў са-

дабрабыт ствараe ў Францыі ятрываючае „заваяваньне“ Нямеччыны...

---

Франк ізноў спаў на Нью-іорскай біржы.

---

Франц. газэты абгаварываюць тыя варункі, на якіх прыдзецца Францыі прызнаць С. С. Р. Р., як толькі ангельскі ўрад Мак-Дональда зробіць гэта першым.

Прэса высоўвае ўжо вядомыя варункі, на чале якіх стаіць прызнаньне даваенных даўгоў царскага ўраду. Можна быць пэўным, што Радавы ўрад ніколі на гэтае ня згодзіцца, і прыдзецца Францыі, можа, і спусьціць цану за прызнаньне...

# З газэт.

### Прэса аб Леніне.

Сьмерць Леніна вызвала водклікі ўва ўсей прэсе—прыязнай і варожай да рэвалюцыйнае ідэі наагул. Стацьцямі аб памершым правадыру камуністаў напоўнены апошнія нумары газэт усіх краёў сьвету.

Французы і італьянцы ня могуць даравацъ яму таго, што ў часе сусьветнае вайны падаў руку нямецкаму народу і на нейкі час значна быў аблягчыў палажэньне Нямеччыны, зьнішчыўшы верную антанце буржуазную расейскую ўладу. І гэты „праступак“ у вачох яшчэ не працьвярэзіўшыхся ад ап'яненьня пабедай французаў засланяе сабой самога геніяльнага сацыяльнага рэфарматара.

Нямецкая прэса, хоць пераважна варожа настроеная да камунізму, адносіцца да Леніна больш об'ектыўна. Орган сацыял-дэмакратаў „Vorwärts“, які заўсёды змагаўся з камуністычнымі ідэямі, кажа:

> Ленін быў жалезнай мятлой вялізарнае мужыцкае рэвалюцыі, якая вымела сьмяцьцё фэадалізму і дала адпор імкненьням контррэвалюцыі.

Усё-ж усе газэты справядліва прызнаюць веліч гэтага рэвалюцыйнага дзеяча. Прызнае гэта нават... польская прэса. Але эндэцкія газэты ніяк ня могуць пакінуць сваей наіўнай гутаркі, што расейскі народ — гэта „не Эўропа“, а „Азія“, і для „Gaz. Warsz.“ Ленін—гэта толькі

> „вучоны варвар, абдораны магутнай воляй і здольнасьцяй да дзеяньня, для культуры людзкасьці ня менш грозны, чым... Атыльля“...

Больш прылічна гаворыць аб Леніне „Rzeczpospolita“. Там чытаем:

> Ленін, паміма вялізарнае адказнасьці яго за рэчы страшэнныя, меў у сабе нешта вышэйшае, што падыймала яго дзейнасьць панад бліжэйшыя ці далейшыя асабістыя інтарэсы, а крывавае зло, якое адзначала ягоную дарогу, не зьяўлялася для яго ані мэтай, ані прыемнасьцяй, а толькі няважнай пабочнай праявай па дарозе да цьвёрда вызначанае жалезнай воляй і халоднай думкай мэты.

„Kurjer Polski“ і „Robotnik“ карыстаюць з нагоды дзеля крытыкі ўсяе дзейнасьці Леніна, як галавы камуністычнае партыі. Усё-ж такі і „Robotnik“ прызнае, што

> Ленін бясспрэчна быў вялікім чалавекам. Магутны быў уплыў ягоны на гісторыю і долю Расеі, а ў пэўнай меры і ўсяго сьвету. Ён пакіраваў расейскую Рэвалюцыю на новыя, нябывалыя шляхі. Вялізарнае гаспадарства аддаў ён пад дыктатуру даволі нячысьленай партыі, у якой сам быў дыктатарам. Карыстаючыся гэтай дыктатурай хацеў ён ад царскае рабскае Расеі пераскачыць да сацыялістычнага ладу ў Расеі, а праз бальшавіцкую Расею накінуць сацыяльную рэвалюцыю ўсяму сьвету. Веліч Леніна выяўляецца ня толькі ў замысьле вялізарнае меры, але і ў тым, што ён здалеў удзяржаць уладу ў сваіх руках і—што-б яшчэ ні сталася ў Расеі—пакінуць у ёй свой нязьнішчальны сьлед. У гэтым была яго магутнасьць.

Запраўды, толькі такія сільныя людзі, толькі такія волаты і маглі правясьці да лёгічнага канца Рэвалюцыю ў Расеі. Польшча такіх людзей ня мае, і ў гэтым — слабасьць польскага рэвалюцыянізму. Ды з гэтага вынікае... завісьць і злосьць да Волата Рэвалюцыі, якога стварыў ненавісны для палякоў Усход.

---

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

— **БЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД.** На 24 лютага гэтага году па новаму стылю склікаецца у Стаупцах **Зьезд** прадстаунікоу ад усяго Стаупецкага павету **для выслуханьня справаздачы паслоу Беларускага Пасольскага Клюбу аб сваей працы у Сойме.**

Вялікія вёскі і мястэчкі павінны прысылаць па 2 прадстаунікі, а меншыя па аднаму.

Аб памяшчэньні, у якім будзе адбывацца зьезд, будзе абвешчана асобна.

Пажадана прысутнасьць прадстаунікоу з усіх куткоу Стаупецкага павету і бліжэйшых мяйсцоу Нясьвіжскага павету.

На зьезьдзе будуць некалькі беларускіх паслоу і сэнатарау.

**Новыя кнігі.** Друкуюцца і хутка выйдуць у прадажу новыя кнігі: „Мцыры“ Лермантава ў перакладзе Краўцова Макара і „Пан Міністар“ п'еса Ф. Аляхновіча.

**Канфэрэнцыя ў Акружнага Інспэктара працы.** 20 і 21 студзеня ў Акружнага Інспэктара працы адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў земляўласьнікаў і сельска-гаспадарскіх работнікаў для апрацаваньня калектыўнай умовы на 1924 г. У часе дэбатаў выясьнілася, што абшарнікі ня хочуць вясьці перагавораў, дзеля таго што с.-гасп. работнікаў на канфэрэнцыі прадстаўляў сябра акружнай камісіі праф. саюзаў В. Бойка. Канфэрэнцыя адложана на 11 лютага.

**У драўлянай прамысловасьці.** 21 студзеня, адбылася канфэрэнцыя ўласьнікаў тартакоў і сябраў ураду клясовага праф. саюзу работнікаў драўлянай прамысловасьці. Прадстаўнікі работнікаў дамагаліся падвышкі заработнай платы на 105 прац., згодна з узростам дарагоўлі ў першай палове студзеня.

Уласьнікі, ссылаючыся на застой у драўлянай прамысловасьці, адмо[?]іліся задаволіць дамаганьні работнікаў. Справа пераходзіць на разгляд прымірытельнае камісіі, але ўласьнікі засьцерагліся, што ня пойдуць ні на якія ўступкі.

**Новы цэньнік.** Саюз купцоў ухваліў новы цэньнік на спажывецкія тавары. Кілё цукру у кавалках 3 мільёны, пяску 2.200 тысячаў, газа — 750 тысячаў, рыж 1.400 тысячаў, дзесятак запалак 500 тысячаў м. п.

**Важна для выяжджаючых у Амэрыку і Канаду.** Згодна з новым распараджэньнем Канадскага Ураду земляробы, гаспадарчыя і лясныя работнікі, а таксама і хатняя прыслуга могуць ехаць у Канаду нават ня маючы ні аффідавітаў ні кантрактаў.

Параходная суполка „Red Star Line“ дала нам знаць, што чакаецца падвышка цэнаў шыфскартаў на 15—20 даляраў (эмігрант № 156), дзеля гэтага, каб гарантаваць сябе на атрыманьне шыфскарты па старой цане, трэба пасьпяшыць з уносам задатку ў кантору „Red Star Line“ ў Вільні, Вялікая вул. дом № 50.

## Спраставаньне.

DO PANA REDAKTORA CZASOPISMA „ZMAGAŃNIE“ W WILNIE — Wileńska 12.

Na zasadzie art. 21 dekretu w przedmiocie tymczasowych przepisów prasowych z dn. 7/II. 1919 r. proszę o zamieszczenie następującego sprostowania:

W czasopismie „Zmagańnie“ z dnia 19/XII. 1923 r. Nr. 20 został zamieszczony list otwarty Prezydjum Białoruskiego Zgromadzenia Obywatelskiego do Komendanta Policji m. Wilna, w którym stwierdzono, że dn. 2/XII. 1923 r. Policja III Komisarjatu wdarła się do lokalu wspomnianego klubu z bronią w ręku, rewidowała obecnych członków, odbierała od nich pieniądze, biła ich rewolwerami, a następnie odebrała gwałtem klucze od dyżurnego gospodarza i zabrała z biurka pieniądze i karty.

Po przeprowadzeniu dochodzenia zostało ustalone, że Policja wkroczyła do lokalu klubu, mając uzasadnione podejrzenie, że odbywa się tam gra hazardowa. Przytem w przedpokoju policjańci zmuszeni byli użyć siły, ponieważ oddźwierny Kamieński Bazyli i bufetowy starali się gwałtem przeszkodzić wkroczeniu policji i skaleczyli w rękę jednego z posterunkowych.

Po wejściu do sali Policja znalazła 10—12 osób, które chowały pośpiesznie pieniądze, lecz na żądanie Policji doręczyły je policjantom. To też rewizja osobista nie była przeprowadzona i nie zachodziła jej potrzeba.

W czasie tego Mikołaj Szczęsnowicz usiłował ukryć karty do gry w następnym pokoju w biurku, czemu policja zapobiegła zabierając karty. Żadne fakty bicia obecnych nie zostały stwierdzone. Natomiast policja musiała użyć siły w stosunku do Jana Strohowskiego, który kilkakrotnie usiłował odebrać od policjantów pieniądze, stanowiące bank, a będące już w ręku policji.

**Wimbor**
Komisarz Rządu.

## Весткі з вёскі.

**Сяло Обрына**, Ярэміцкай гм., Наваградзкага п.

У нашым сяле ёсьць адзін дробны гандляр, — называецца Пучко, які гандлюе ўсім, чым хочаш і прынімае плату так сама чым хочаш. Летам і восеньню, калі дзеці не заняты навукаю, ён падахвочывае дзяцей для куплі гармонікаў, цукеркаў, кручкоў для вудачак і папяросаў. Вядомы фундуш у пастуха—рукі і галава. Вось такі хлопчык, падахвочаны гармонікам-самаграйкай, альбо папяросай „Шапшала“, разложыць у полі на сваім халацiку мэндаль, акалоціць яго пугаю, трохі на ветры абвее і гайда к Пучку на тавараабмен. А дзяўчаткі, каб быць прыгажэй у нядзелю, нясуць з-пад курыцы-наседкі яйкі. Дзіваем дзівіліся ў першую пару мужыкі, што Пучко, такі самы гаспадар, як і суседзі, а кожны тыдзень цэлымі вазамі прадае ў Міры збожжа і яйкі лічыць цэлымі капамі, а ў памешчыка Кашчыця з суседняга двора Пучко купляе зямлі больш, як другія яго тавары.

Па неякім часе справа яго даходаў выясьнілася, што ён нажываецца ад таго, што вядзе гандаль у вышэй апісаны спосаб, выкарыставаючы дзяцей і навучаючы іх красьці...

Недалёка ад яго ёсьць і школа, на якую скаржыцца ня можам, што ў ёй кепска вучаць дзяцей, але і сто такіх школ ня могуць паправіць той шкоды, што робіць „купец“ Пучко.

Прасілі яго дабром, а потым сталі лаяць за тое, што п. Пучко гандлюе на крадзенае, але п. Пучко і слухаць ня хоча: ён паказвае на патэнт і на дзьверы і кажа, што ўсё ў яго ў парадку.

Можа, хто з чытачоў ведае пэўны рэцэпт, як вылячыцца нам ад гэтай заразы?

**Обрынец.**

**В. Макаршчына**, Пастаўскае гміны.

16 сьнежня м. г. Докшыцкай паліцыяй быў арыштаваны сялянін нашае вёскі Аўстахей Лапачонак за тое, што нібы меў ён замер перайсьці ў Радавую Расею. Пры арэшце камэндант пастарунку некалькі разоў выцяў яго па твару, пасьля чаго яго закованага адправілі ў Парафіянава на пастарунак, але яго там ня прынялі, а адправілі на паліцэйскі пастарунак у маёнт. Казлоўскі, Луцкае гміны. Тут з ім абышліся так, як і пры арэшце. Заступнік камэнданта гэтага пастарунку Зенкевіч рабіў дапрос, але нічога не записываў. Другі дапрос рабіў сам камэндант, але так шчыра завіхаўся кулакамі каля твару, што арыштаваны аж крывёй абліўся. Пасьля яго зьвязалі і зьвязанага палажылі на падлогу са словамі: „jeżeli będziesz ruszać się—kulka w łeb“. Назаўтра яго адправілі ў павет у Дунілавічы, дзе яго, пасьля дапросу зволнілі. Сядзіць цяпер Лапачонак дома і ня толькі ня зьбіраецца, але нават баіцца і думаць аб пераходзе граніцы пасьля такой лупцоўкі.

**Ц. Б.**

---

## Курс на грошы.

**Варшава, 25-га Студзеня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 9.950.000 |
| Фунты штэрл. . . . . . . | — — — |
| Франкі франц. . . . . . . | 438.000 |
| Франкі швайц. . . . . . | — — — |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | — — — |
| Ліры італьян. . . . . . . . | — — |
| Боны залатыя . . . . . | — — — |

---

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоунікам.***

---

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.